**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№25(689)**
**20 чэрвеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by






Ці ёсць на Беларусі горад, дзе, звесіўшы ногі з гары, можна сядзець і глядзець на яго дахі зверху?

Кажуць, ёсць! Гэта – Сапоцкін ля Гродна на сумежжы з Польшчай і Літвой. А пра Браслаў, чамусьці, забываюць!

**На здымку:** Браслаў, Замкавая гара. Непаўторныя краявіды на пагоркава-азёрны край!

*Уладзімір Скрабатун.*



## Дзень сям'і ў Лучаі 30-06-2013

Парафія св. Юды Тадэвуша, апостала ў Лучаі (Віцебская дыяцэзія, Пастаўскі дэканат) запрашае сужонкаў і таксама кожнага жадаючага прыехаць на свята сям'і, якое будзе праводзіцца 30 чэрвеня г.г., пачатак а 16:00. На гэтую сустрэчу асабліва запрашаем сужонкаў, якія ў гэтам годзе адзначаюць свой юбілей сужэнскага жыцця ці нейкую круглую гадавіну свайго шлюбу. На наша свята запрошаныя святары, якія займаюцца душпастырсвам сем'яў, а таксама спецыялісты і дарадчыкі сямейнага жыцця, таксама прадстаўнікі супольнасці «Сужэнскія сустрэчы». Будзе магчымасць падзяліцца сваім сведчаннем. Пасля літургіі запланаваны канцэрт вядомага беларускага артыста. Юбіляраў просім паведаміць загадзя аб сваім удзеле.

**ПРАГРАМА:**

Перажыванне нядзелі ў сям'і

- Адарацыя.
- Канферэнцыя.
- Разважанні і сведчанні.
- Святая Імша за сем'і і юбіляраў.
- Канцэрт.

***кс. Мікалай Лінскі***

## МНС інфармуе

**на 18.06.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 542;
Гібель людзей – 73, з іх 1 дзіця;
Урон – 2439,2 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 29;
Гібель людзей – 4, з іх дзяцей няма;
Урон – 128.4 руб.

Мёрскі раён

# З людзьмі не цырымоняцца

■ Станіслаў Раманчук

**Чамусьці ў нас прынята хваліць існуючыя парадкі, хоць у рэальным жыцці яшчэ шмат праблем і цяжкасцей, якія замоўчваюцца.**

Аднак нядаўні маніторынг працы дзяржаўных органаў і арганізацый са зваротамі і скаргамі насельніцтва выявіў на Віцебшчыне чарговую хібу. Перад тым, як прыехаць у Чашнікі ў заключны дзень маніторынгу, старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Беларусі Аляксандр Якабсон, пабываў у Мёрскім раёне, правеў выязны прыём грамадзян. І быў галоўны рэвізор краіны настолькі ўражаны ўбачаным і пачутым набалелым ад людзей, што адразу рэзка раскрытыкаваў падыходы кіраўнікоў розных рангаў вобласці да сваіх суайчыннікаў. Старшыня кантрольнага ведамства прама сказаў, што вельмі шмат віцебскія ўпраўленцы лёгка даюць абяцанні і потым на іх забываюцца, проста падманваюць народ. А ў саміх Чашніках падчас двухгадзіннай "прамой лініі" выявіліся навогул абуральныя рэчы. На мясцовым прадпрыемстве па вырабе жалезабетонных канструкцый, якое абанкроцілася, на працягу 18 месяцаў не маглі разлічыцца з работнікамі за працу і выдаць ім заробленыя 225 мільёнаў рублёў. Сітуацыя ў сельскай гаспадарцы Прыдзвіння таксама складаная, бо яшчэ зімой пачаліся затрымкі выдачы заробкаў, альбо выплат замест грошай каўбасы і іншых тавараў у крамах сельпо. Толькі пасля звяртання да галоўнага кантралёра змагла атрымаць грошы за здадзенага ў калгас бычка адна з мясцовых жанчын. Моцна падвёў сваю работніцу і калгас "Лукомльскі", які 9 гадоў не выплочваў узносы ў Фонд сацстрахавання, з-за чаго пенсія ў жанчыны стала толькі 915 тысяч рублёў і, на жаль, такія прыклады не адзінкавыя…

Браслаўскі раён

# Дом сагрэтых сэрцаў

■ Кастусь Александровіч

**Даволі актуальнай для нашай краіны застаецца тэма сацыяльнага сіроцтва пры жывых бацьках, хоць і зрухі ў лепшы бок намеціліся.**

Улады больш жорстка ўзяліся за нядбайных бацькоў, прыбавілася прыёмных сем'яў, замест казённых інтэрнатаў сталі адкрываць дзіцячыя дамы сямейнага тыпу. Вось і ў пачатку лета такая радасная падзея адбылася ў гарпасёлку Відзы, што ў Браслаўскім раёне. Тут урачыста перадалі ключы педагогу са шматгадовым стажам Святлане Дзямяткевіч ад двухпакаёвага катэджа з усімі зручнасцямі, пабудаванага па дзяржаўнай праграме "Дзеці Беларусі". Гэты асабняк стаў першым у азёрным краі і 21-м па ліку ў Віцебскай вобласці домам сямейнага тыпу. Шчаслівымі навасёламі сталі чацвёра сірот, трое хлопчыкаў і дзяўчынка. Яны былі асабліва рады, бо прыйшлі ў сапраўдную сям'ю, дзе аб іх ёсць каму паклапаціцца, акружыць ласкай і цяплом. Для гэтай вялікай сям'і, дзе выраслі свае сын з дачкой, было дастаўлена ад розных арганізацый шмат падарункаў: вялікі халадзільнік, кухонны камбайн, тэлевізар з камп'ютарам. Малыя асабліва радаваліся і жывому падарунку, пары маленькіх крулікаў, якіх з задавальненнем сталі даглядаць. У распараджэнне сямейнага дома перадалі і прысядзібны ўчастак, а галоўнае, што ў пакрыўджаных лёсам дзетак з'явілася новая другая сапраўдная мама Святлана Антонаўна. Яе новыя выхаванцы нядрэнна вучацца і павінны тут знайсці сваё шчасце. Сюды яны трапілі з дзіцячага сацыяльнага прытулку ў Опсе, які сёлета будзе закрыты. Яшчэ 40 дзетак з цяжкімі лёсамі ў раёне ўладкаваны ў прыёмныя і апякунскія сем'і.

Полацкі раён

# Гучалі песні над Дзвіной

■ Чэслаў Якубовіч

**Няшмат у Беларусі знойдзецца такіх гарадоў, як Наваполацк, якія б развіваліся вельмі дынамічна і эфектыўна.**

У яго і зайздросная перспектыва, бо кожны трэці жыхар – яшчэ малады чалавек з вышэйшай адукацыяй ва ўзросце да 35 гадоў. Невыпадкова зараз прадукцыя навапалачан адгружаецца ў 40 краін свету, горад выйшаў на гадавыя аб'ёмы вытворчасці звыш 60 трыльёнаў рублёў, мае адну з самых вялікіх у краіне зарплат. Аб гэтым з гонарам гаварылася на галоўнай плошчы будаўнікоў, калі на ёй адбылося ўрачыстае адкрыццё свята Дня горада з нагоды яго 55-годдзя. Да гэтага моманту свята ўжо працягвалася тыдзень. Жыхары горада нафтахімікаў правялі яго, дарэчы, з вялікім размахам, бо праграма святочных мерапрыемстваў была, як ніколі, маштабнай і працягвалася цэлых дзевяць дзён. Для людзей усіх узростаў і мікрараёнаў прадумалі розныя імпрэзы, канцэрты, конкурсы і фестывалі. Упрыгожваннем юбілейных урачыстасцей стала адкрыццё бюста знакамітага творцы, мастака Івана Хруцкага, імя якога носіць мясцовая дзіцячая школа мастацтваў. Радыё канала АНТ падаравала гараджанам маладзёжную дыскатэку з удзелам папулярных выканаўцаў. У абноўленым кінатэатры "Мінск" кожны жадаючы мог бясплатна паглядзець мастацкі фільм "Вуліца без канца", зняты пра іх горад і яго станаўленне. Многіх зацікавіла прэзентацыя кнігі-фотальбома "Ганарымся мінулым, будуем будучыню".

# Аб самым надзённым

## ПРЫЯРЫТЭТНАЯ ГАЛІНА АЙЧЫННАГА АПК СЁЛЕТА ПАКУЛЬ НЕ РАДУЕ



■ Аляксандр Цішкевіч

**У гэтым годзе новая бяда. Прыярытэтна галіна – малочная жывёлагадоўля стала прабуксоўваць. Перад нашымі калгасамі на 2013 год ставілі задачу павялічыць на 11 % рост вытворчасці малака і адпаведна надояў. Аднак пакуль назіраецца супрацьлеглы малюнак, не дояцца, як трэба, нашы каровы на калгасных фермах.**

Ужо набіла аскоміну гаварыць, што айчынная сельская гаспадарка ў нас найбольш абласканая і з дзейнасцю АПК дзяржава звязвае свае надзеі зарабіць паболей валюты. Акрамя гарантавання для беларусаў харчовай бяспекі (хоць якая яна можа быць пры такім дарагім харчаванні) сталі расці паказчыкі па росце прадукцыі палёў і ферм. З ростам вытворчага патэнцыялу ў выніку Беларусь у мінулым 2012 годзе ад экспарту прадуктаў харчавання зарабіла, нагадаем, 5 млрд. долараў.

Аднак не будзем забываць, якія грошы ўклалі ў нашы калгасы, змяніўшыя ў чарговы раз свае назвы цяпер на розныя акцыянерныя таварыствы. За апошнія 5 гадоў у беларускія гаспадаркі з дапамогай дзяржавы заводы паставілі звыш 10 тысяч новых збожжаўборачных камбайнаў, амаль 17 тысяч трактароў і 9232 грузавыя аўтамабілі, вельмі шмат пагрузчыкаў, касілак, сеялак, бульбаўборачных камбайнаў і іншых агрэгатаў. Ды і зараз пачала дзейнічаць новая спецаперацыя "лішні трактар" пасля прэзідэнцкага ўказання не трымаць непрададзеную сельгастэхніку на складах.

Чыноўнікі спрацавалі аператыўна і ў пачатку лета стала пастаўляцца дадатковая тэхніка ў лізінг на 7 гадоў. Падобныя лізінгавыя схемы, калі грошы адразу не трэба плаціць, гэта мы ўжо праходзілі. І яшчэ вяскоўцы спадзяюцца з цягам часу іх вялізныя даўгі спішуць, асабліва калі здарыцца новая дэвальвацыя. Нават беларускія аўтобусы МАЗ асабліва не карыстаюцца попытам, іх на складах было было ў маі 400 адзінак і вырашылі выставіць на продаж на вёску новыя школьныя аўтобусы.

Аднак і розных праблем ў беларускай сельскай гаспадарцы не змяншаецца. Апроч паўсюднага высокага ўзроўню затрат на выпуск гатовай прадукцыі ў нашых калгасах не змяншаюцца і нават растуць, прызнаў у парламенце намеснік прэм'ер-міністра Міхаіл Русы, даўгі гаспадарак па крэдытах. Ды і больш-менш устойліва ў Беларусі працуюць і жывуць, маюць нейкую перспектыву каля 40 % сельгаспрадпрыемстваў, на долю якіх прыходзіцца 85 % атрыманага АПК прыбытку і дзве трэці ўраджаю, мяса і малака на продаж.

У гэтым годзе новая бяда. Прыярытэтна галіна – малочная жывёлагадоўля стала прабуксоўваць. Перад нашымі калгасамі на 2013 год ставілі задачу павялічыць на 11 % рост вытворчасці малака і адпаведна надояў. Аднак пакуль назіраецца супрацьлеглы малюнак, не доцца, як трэба, нашы каровы на калгасных фермах. Па выніках працы ў студзенікрасавіку вытворчасць малака ў Беларусі скарацілася на 1,5 %. Цікава, што на айчынных фермах, якія шмат рэканструіравалі летась, хоць і з прыпіскамі, колькасць малочнага пагалоўя павялічылася.

Неверагодна, аднак пры гэтым сярэдня надоі перад выганам статку на пашу знізіліся на 4,1 %, чым яны былі год назад. Глыбіня падзення склала мінус 750 грам у цэлым па калгасных фермах на кожную карову па Беларусі. Як вынік, беларускія калгасы рэалізавалі з пачатку года малака на 2,4 % меней, чым за аналагічны перыяд летась. Вось і ўся арыфметыка, а ўпраўленцы апраўдваліся, што падвяла недастатковая кармавая база і недахоп кваліфікаваных, добрасумленным кадраў.

З людзьмі, сапраўды, існуюць праблемы, бо ў сельскай гаспадарцы засталося ўжо каля 400 тысяч працаздольных, многія з якіх у пажылым узросце. У адстаючых гаспадарках на фермах многія жывёлаводы могуць пайсці ў запой, нават прапусціць дойку – гэта далёка не навіна. З іншага боку наша малочная прадукцыя прадаецца ў асноўным толькі ў Расіі ды і яшчэ некаторых краінах СНД. Прабіцца на заходнія рынкі збыту для нас складана па многіх прычынах і з-за вельмі высокай канкурэнцыі.

Сёлета за 3 месяцы ў далёкае замежжа беларусы прадалі малочнай прадукцыі мізер, усяго 2,5 тысячы тон, хоць там малако даражэй амаль на 400 долараў за тону, чым мы прадаём на постсавецкі рынак. І самае галоўнае, нам трэба рыхтавацца да яшчэ больш сур'ёзнай канкурэнцыі пасля ўступлення галоўнага партнёра Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. На яе рынку ўжо кішаць канкурэнты і далей будзе яшчэ больш складана. Руская мафія багата валюты і яны могуць за некалькі гадоў кардынальна абнавіць свае фермы і свінакомплексы, аснасціць іх суперсучасным абсталяваннем, каб меней залежыць ад імпарту харчавання. Пакуль жа нам застаецца спадзявацца на тое, што на зялёных кармах адставанне будзе перааадолена, надоі ўзрастуць, а жывёлагадоўля напоўніць казну патрэбнай вырукай ад экспарту.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 20.06.13 | | | | Пятніца 21.06.13 | | | | Субота 22.07.13 | | | | Нядзеля 23.06.13 | | | | Пнд.24.06.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +19 | +24 | +20 | +15 | +21 | +26 | +24 | +17 | +21 | +26 | +22 | +14 | +20 | +25 | +22 | +16 | +19 | +25 |
| Ціск | 751 | 751 | 751 | 750 | 749 | 749 | 748 | 747 | 747 | 747 | 746 | 745 | 745 | 745 | 744 | 744 | 744 | 744 | 744 |
| Вільготнасць | 94 | 73 | 54 | 74 | 92 | 76 | 51 | 68 | 93 | 82 | 56 | 58 | 87 | 66 | 47 | 54 | 83 | 83 | 51 |
| Вецер м/сек | 1 Пд-З | 1 Пд-З | 2 Пн-З | 1 Пд-У | 2 Пд | 2 Пд-З | 1 Пд | 2 Пд-У | 3 Пд-У | 3 Пд-У | 3 У | 3 У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 3 У | 3 Пд-У | 3 У | 4 У |

## Дзень за днём

**Адмоўнае сальда знешняга гандлю таварамі Беларусі за 4 месяцы перавысіла 1 мільярд долараў, беларускі экспарт скараціўся на 22,7 %. Урад адмяніў дзяржрэгуляванне экспарту асобных відаў беларускіх тавараў. У сталічных ЖЭСах вялізныя чэргі, бо колькасць жадаючых прыватызаваць жыллё вырасла ў 3 разы. За аплату электрычнасці беларусам прыйдзецца плаціць болей чым на 10 тысяч пасля росту тарыфаў на электраэнергію. У беларускіх школах адшумелі выпускныя вечары для амаль 145 тысяч выпускнікоў 9-х і 11-х класаў, а колькасць абітурыентаў скарацілася амаль на 24 тысячы. Сіноптыкі паведамілі, што лета ў гэтым годзе ў Беларусі будзе на 1-2 градусы цяплейшым, чым звычайна.**

# Важнейшыя навіны свету

**Ізраіль.** Кіраўнік урада Б. Нетаньяху папярэдзіў суседнюю Сірыю, што не дасць ім паставіць атрымання расійскія ракеты С-300 на баявое дзяжурства і пагражаць яго краіне.

**Англія.** Калі сітуацыя ў Сірыі яшчэ болей пагоршыцца, як заявіў глава МЗС У. Хейг, то краіна разам з Францыяй можа пачаць пастаўкі патрэбнага ўзбраення паўстанцам.

**Казахстан.** Прэзідэнт Н. Назарбаеў заявіў, што Еўразійскі эканамічны саюз пачне сваю працу з 1 студзеня 2015 года, але ў яго рамках будзе толькі эканамічная інтэграцыя.

**Бельгія.** Еўракамісар ЕС Штэфан Фюле пацвердзіў, што для нармалізацыі адносін Беларусь у першую чаргу павінна вызваліць і рэабілітаваць усіх сваіх 11 палітычных зняволеных.

**КНДР.** Нечаканая ўлады паўгалоднай краіны спынілі агрэсіўную рыторыку і прапанавалі суседняй Карэі падпісаць мірны дагавор і аднавіць дзейнасць у СЭЗ тэхнапарка Кэсон.

**Літва.** Прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ адправіла ў адстаўку міністра эканомікі Біруту Вескайце за палёт з 2 дарадцамі на прыватным самалёце на бізнес-форум у Казахстан.

**Турцыя.** Каля 2 тысяч чалавек былі затрыманы і потым паліцыяй адпушчаны пасля допытаў падчас антыўрадавых акцый пратэсту, раненні атрымалі 58 і 115 паліцэйскіх.

**Расія.** Па новаму закону расіянам забаранілі курыць на працы, у транспарце, грамадскіх месцах, пад'ездах жылых дамоў, уведзена абмежаванне на рэкламу тытуню.

**Афганістан.** Ісламіст, тэрарыст-смяротнік атакаваў на рынку горада Самкані ваенны патруль НАТО і забіў 9 дзяцей, аднаго паліцэйскага, акрамя іх былі паранены яшчэ 15 чалавек.

**Бельгія.** У пачатку лета ў ЕС страцілі працу яшчэ 100 тысяч чалавек, у 17 краінах еўразоны амаль 20 мільёнаў беспрацоўных, з іх – каля 4 мільёнаў прыходзіцца на моладзь ва ўзросце да 25 гадоў.

**Чэхія.** З-за праліўных лівеняў на працягу некалькіх тыдняў у 50 гарадах краіны ўвялі рэжым стыхійнага бедства, вялікая паводка накрыла таксама Германію, Аўстрыю.

**ЗША.** Новыя ўраганы тарнада, якія пранесліся па штатах Аклахома і Місуры, забралі жыцці 12 чалавек і 2 дзяцей, выклікалі моцную паводку, разбурылі сотні дамоў.

**Расія.** На расійскім аўтамабільным заводзе ГАЗ пачалі зборку аўтамабіляў маркі Mercedes-Benz, у продаж машыны паступяць у верасні і будуць на 20 % таннеі за іх заходнія аналагі.

**Англія.** У адной з клінік Ліверпуля нарадзілася першае ў свеце дзіця пры дапамозе палепшанай тэхналогіі ЭКО, пры ёй цяжарнасць жанчын наступае ў 78 % выпадкаў.

**Расія.** Пад ціскам улад і следства былы дарадца ўрада РФ і сенатар, мільярдэр, уладальнік холдынга "Фосагра" Андрэй Гур'еў з'ехаў у вымушаную эміграцыю за граніцу.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Улады сталіцы вырашылі дапамагчы разгрузіць склады і закупіць у лізінг аўтобусы, будаўнічую і камунальную тэхніку, яе стала меней браць Расія, як член СГА.

**Жодзіна.** На канвеер зборкі самазвалаў БелАЗа сталі паступаць для камплектацыі бартавыя камп'ютары беларускай распрацоўкі і зборкі замест заходніх аналагаў.

**Круглае.** Амаль 80 чалавек засталіся без працы пасля спынення мясцовага льнозавода, людзі супраць закрыцця завода і не хочуць ездзіць працаваць за 40 кіламетраў на завод у Шклове.

**Слаўгарад.** Трое рабочых ва ўзросце 28, 33 і 45 гадоў загінулі падчас чысткі каналізацыі свінарніка агракомплексу "Агнеўскае", яшчэ трое трапілі з атраўленнямі ў рэанімацыю.

**Мінск.** У сталіцы пачалі рыхтавацца да пастырскага візіту 29-30 ліпеня Патрыярха Маскоўскага і ўсёй Русі Кірыла з нагоды ўрачыстасцей 1025-годдзя хрышчэння Русі.

**Бяроза.** Следчы камітэт пачаў праверку здарэння ў цэнтральнай раённай бальніцы, дзе ўпаў пад раніцу з даху будынка і разбіўся насмерць хворы 52-гадовы мясцовы жыхар.

**Барысаў.** З нечаканай праверкай ААТ "Барысаўдрэў" наведаў глава прэзідэнцкай Адміністрацыі А. Кабякоў, работы па яго мадэрнізацыі ідуць з адставаннем, працы шмат.

**Баранавічы.** На аўкцыёне эмігрант з ЗША купіў былы будынак Дома піянераў, пазней тэхнікум каля чыгуначнага вакзала плошчай 700 квадратных метраў за 58 тысяч долараў.

**Ліда.** Літоўская фірма "Glera Market" пачала ўзводзіць у райцэнтры два сваіх буйных супермаркеты коштам па 1 мільёну долараў кожны, далей літоўскія інвестары пойдуць у Ваўкавыск.

**Мінск.** Кампанія "Белавія" набыла па лізінгу ў Германіі 6-ты па ліку самалёт Boeing 737-300 на 148 пасадачных месц, цяпер яе авіяпарк складае 21 сучаснае паветранае судна.

**Брэст.** На тэрыторыі раёна незамужняя 27-гадовая жанчына дома нарадзіла доношаную дзяўчынку і падазраецца, што яна малую задушыла, а ад людзей хавала сваю цяжарнасць.

**Слуцк.** Райцэнтр пацярпеў ад моцнага граду, на адной з вуліц сутыкнуліся па два легкавыя і грузавыя аўтамабілі, аднаго вадзіцеля заціснула ў салоне, выцягнулі ратавальнікі МНС.

**Гомель.** Прысядзібныя ўчасткі жыхароў вобласці моцна пацярпелі ад нашэсця гусеніц рапсавага пілільшчыка, без хімічнай апрацоўкі яны могуць знішчыць увесь ураджай.

**Лунінец.** Падчас рыбалкі на Прыпяці моцны вецер перакуліў лодку і ўтапіўся адзін з трох рыбакоў, намеснік начальніка райаддзела міліцыі, яго сябры выплылі.

**Мінск.** Кіраўніцтва лігі КХЛ не дазволіла хакейнаму клубу "Дынама" падпісваць па форме прозвішчы ігракоў на беларускай мове альбо на беларускім варыянце лацініцы.

# У Беларусі для аплаты праезду па платных дарогах можна будзе выкарыстоўваць паліўную карту



■ БелТА

**У мэтах забеспячэння функцыянавання сістэмы электроннага збору платы за праезд па дарогах Беларусі, а таксама кантролю за выкананнем парадку яе спагнання прэзідэнтам 13 чэрвеня падпісаны указ №268, які тычыцца дзейнасці дзяржаўнай установы «Транспартная інспекцыя Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь». Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы.**

Дакументам, у прыватнасці, прадугледжваецца ўстанавіць парадак спагнання платы за праезд транспарту па платных дарогах Беларусі.

Указам прадастаўляецца магчымасць выкарыстання паліўнай карты, эмітаванай для аплаты праезду па платных дарогах краіны ў рамках функцыянавання сістэмы электроннага збору платы.

Паліўная карта - гэта электронная прылада, якая выкарыстоўваецца для аплаты праезду транспарту па платных дарогах. Па сутнасці, гэта аналаг банкаўскай карткі, якая выкарыстоўваецца перавозчыкамі большасці краін свету, у тым ліку і Беларусі, для аплаты паслуг за мяжой (плата за паліва, праезд і купля спадарожных тавараў на аўтазаправачных станцыях).

Прадастаўляецца таксама магчымасць унясення ўласнікам (уладальнікам) транспартнага сродку, якія не з'яўляюцца рэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, платы ў беларускіх рублях, расійскіх рублях, еўра або ў доларах ЗША. Рэалізацыя кантрольных функцый Транспартнай інспекцыі будзе ажыццяўляцца шляхам мабільнага кантролю ў кругласутачным рэжыме.

Акрамя таго, у сувязі са зменай назвы РУП «Белаўтастрада» на ДУ «Белаўтастрада» ўнесены адпаведныя змены ў прававыя акты, якія рэгулююць дзейнасць дадзенай арганізацыі.

Рэалізацыя палажэнняў указа дасць магчымасць завяршыць фарміраванне нарматыўнай прававой базы, неабходнай для эфектыўнага функцыянавання сістэмы электроннага збору платы за праезд транспарту па дарогах краіны.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Талачын.** Старшыня Камітэта дзяржкантролю РБ А. Якабсон абурыўся, што кіраўнікі на Віцебшчыне раздаюць людзям занадта шмат абяцанняў, якія потым не выконваюцца.

**Наваполацк.** З нагоды свайго 55-годдзя праграма юбілейных урачыстасцей на Дзень горада расцягнулася на паўтара тыдні, быў адкрыты бюст І. Хруцкага ля мастацкай школы.

**Бешанковічы.** Вядомая фірма "Белвест" восенню адкрые ў райцэнтры свой філіял па раскрою і зборцы нарыхтовак верху абутку, на чарзе ўласны лагістычны цэнтр.

**Полацк.** Яшчэ на 3 гады адклалі вывад з цэнтра горада ў яго прамысловую зону ліцейнай вытворчасці, гэты завод ліцця і сплаваў павінен быў пераехаць туды ў 2012 годзе.

**Паставы.** Усім раёнам вобласці рэкамендавалі ўкараніць вопыт кругл агадовага ўтрымання быкоў у полі мясцовага ААТ "Навасёлкі-Лучай" з прывагамі 1200 грам у суткі.

**Орша.** Родныя не пагадзіліся з заключэннем егіпецкіх урачоў, што 25-гадовы Аляксей Калтуноў памёр на адным з мясцовых курортаў быццам бы ад злоўжывання алкаголем.

**Коханава.** Мясцовае прадпрыемства па выпуску жалезабетонных канструкцый стала банкрутам, тут не выдалі зарплату за працу яшчэ ў 2011 годзе, завод будзе ліквідаваны.

**Віцебск.** Па ініцыятыве расійскай чыгункі адмянілі рух прамых прыгарадных дызель-цягнікоў да Смаленска, цяпер туды можна даехаць з перасадкамі праз Рудню.

**Глыбокае.** На першым паверсе раённай паліклінікі, а таксама і ў Падсвільскай райбальніцы асвяцілі ў адзін дзень каталіцкія капліцы, дзе святары будуць маліцца з хворымі.

**Наваполацк.** Будаўнікі завяршылі рамонт апошняга паверха былога прафілакторыя завода "Палімір", на яго базе працуе бальніца сястрынскага догляду на 90 месц для пажылых.

**Браслаў.** Толькі калі сын вырашыў прыватызаваць кватэру ў райцэнтры, ён даведаўся аб смерці свайго 52-гадовага бацькі пасля разводу 3 гады назад у Тульскай вобласці Расіі.

**Віцебск.** За незаконны адстрэл маладой самкі дзікага кабана суд апроч штрафу ў 6 мільёнаў рублёў пакараў жыхара раёна 1,5 гадамі папраўчых работ з выплатай 10 % заробку.

**Полацк.** Следчы камітэт сабраў доказы неаднаразовага атрымання хабару па 90-100 еўра дэканам мясцовага дзяржуніверсітэта за паспяховую здачу экзаменаў і кантрольных работ.

**Віцебск.** На алеі герояў 103-й гвардзейскай асобнай мабільнай брыгады урачыста адкрылі бюст Героя Савецкага Саюза старшага лейтэнанта Уладзіміра Задарожнага.

**Лёзна.** На аграсядзібе "У Нінель" прайшоў ІІІ абласны злёт агратурыстычных гаспадарак, на Віцебшчыне зараз дзейнічаюць больш за 420 сядзіб, на злёце былі госці з Расіі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Як стаць слабым?

**Хутка на прылаўкі краіны паступяць новыя цыгарэты: Прыма-лёгкія, Прыма-лёгкія счарнелі, Прыма-лёгкія адваліліся.**

■ **Марціновіч Д.А.,**
*псіхолаг ОСАіР ТЦСОН*
*тэлефон даверу* – **23392**

З медыцынскага пункту гледжання, цыгарэта ўтрымоўвае нікацін – рэчыва, якое валодае выяўленай здольнасцю выклікаць залежнасць. Большасць тытунёвых вырабаў з'яўляюцца сродкамі для хуткай і эфектыўнай дастаўкі нікаціну ў галаўны мозг, у выніку чаго дасягаецца хуткі пачатак і сталая падтрымка залежнасці. Сімптомы адмены нікаціну, якія з'яўляюцца праз некалькі гадзін пасля спынення курэння і працягваюцца да 2 тыдняў, ствараюць адмоўнае падмацаванне, якое абцяжарвае яго спыненне. Курэнне выклікае шэраг такіх небяспечных захворванняў як рак, пнеўманію, хранічны бранхіт, інфаркт, выклікае пажаўценне зубоў і пазногцяў, а таксама павялічвае лік маршчын, імпатэнцыю і выклікае недахоп кіслароду ва ўсіх органах, у тым ліку і ў мозгу. Усё гэта вы, натуральна, ведаеце самі, і звязвацца з такім глупствам, звычайны разважны чалавек нават і не падумае.

Але курэц, таксама як алкаголік ці наркаман, адмаўляе сваю залежнасць, адмаўляе сваю няздольнасць адмовіцца ад далейшага спажывання, адмаўляе праблемы, якія ўзнікаюць у сувязі са спажываннем. Далей - больш: страта кантролю. Курэц, як і іншыя залежныя, губляе колькасны і сітуацыйны кантроль спажывання. У выніку чаго ён марнуе на курэнне больш грошай і часу, чым планавалася. У курца пагаршаецца фізічная форма і здароўе, ён марнуе на цыгарэты грошы, якія маглі б прынесці карысць яму і яго сям'і, але ён не чуе блізкіх, якія заклікаюць яго адмовіцца ад курэння, і атручвае іх таксінамі тытунёвага дыму.



Галоўным жа з'яўляецца тое, што ўсе рэчывы, якія выклікаюць залежнасць, змяняюць свядомасць чалавека, змяняюць яго стаўленне да жыцця і тое, як ён прыстасоўваецца да яго. Рэчывы, якія выклікаюць залежнасць, становяцца бар'ерам на шляху ўсведамлення і рашэння жыццёвых праблем. Курэц перастае адэкватна рэагаваць на цяжкасці, якія ўзнікаюць у яго жыцці ці проста сітуацыі, што патрабуюць новых рашэнняў. Выпрабоўваючы дыскамфорт, чалавек шукае яго прычыну і спосабы ўхілення, і такім чынам дасягаецца яго развіццё і ўдасканаленне разнастайных навыкаў і функцый. Курэц жа, які выпрабоўвае дыскамфорт, прымае ў большасці выпадкаў рашэнне пра тое, што яму проста неабходна чарговая цыгарэта!

Але нават не гэта самае цікавае, самае цікавае тое, што чалавек сам разумее, што ён забівае сябе і ўсіх вакол, але ўсё адно працягвае жыць як-бы не заўважаючы гэтага. Можа мы і напраўду зусім дурныя? Дарагія мае, запомніце, а можаце і не – вам ніхто нічога не павінен, гэта вы павінны **самі сабе**! Хтосьці ратуе іншаму жыццё, а хтосьці не можа вратаваць нават сваё ўласнае, а хтосьці і іншых цягне за сабой у бездань. Абсалютна любы чалавек па жыцці можа стаць горш жывёлы, а можа стаць ідэалам для іншых. Любая ваша прадузятасць абмяжоўвае ваш уласны патэнцыял. Калі вас наведвае думка тыпу - «Я ніколі не змагу кінуць курыць!», спытайце сябе, а каму ў галаву прыйшла гэта думка, а? І вось вы ўжо гатовыя адказаць – «Як каму, мне!». Але хто такі – вы? Адкажыце сабе, чаму вас лічыць слабым ваша так званае – Я?

# Як не заблукаць у лесе — парады спецыялістаў

**Штогод дзясяткі нашых суайчыннікаў губляюцца ў лясах. Хтосьці, паблукаўшы 2-3 гадзіны, знаходзіць дарогу да дома самастойна. А вось кагосьці даводзіцца шукаць усім светам: лес прачэсваюць і ратавальнікі, і міліцыя, і леснікі, і жыхары навакольных вёсак. А бывае, губляюцца дзеці.**

Але часцей за ўсё праблемы з арыентаваннем узнікаюць у людзей сталага ўзросту. Зрэшты, заблукаць можа кожны. Нярэдка, збіраючыся па ягады-грыбы, нашы суграмадзяне апранаюцца так, нібы збіраюцца там партызаніць. Камуфляж надзейна хавае чалавека, што значна ўскладняе пошукі, калі сіл паведаміць пра сабе ўжо не засталося. Вядома, адзенне павінна быць шчыльным, але лепш — яркім. Не перашкодзіць чырвоная кепка або хустка, — любы прыкметны прадмет. Перад выхадам у лес — вывучыце карту мясцовасці, узброіцеся компасам і мінімальнай аптэчкай. Для таго, каб не згубіцца, калі вы ідзяце кампаніяй, можна скарыстацца свістком. Яго гук чутны за 2-3 кіламетры.



Збіраючыся ў лес, звяртайце ўвагу на ўмовы надвор'я — у пахмурнае надвор'е паход лепш адкласці. Калі паход па грыбы або ягады справа вырашаная, выконвайце наступныя рэкамендацыі:

— Па магчымасці, не выпраўляйцеся ў лес у адзіночку;

— Вывучыце асноўныя правілы арыентавання ў лесе;

— Паведаміце сваякам або знаёмым пра меркаваны маршрут і час вяртання, своечасова інфармуйце іх, калі планы змяніліся;

— Апранайце зручныя, непрамакальныя вопратку і абутак;

— Вазьміце з сабой компас, тэлефон, ваду, лекі, нож, запалкі;

— Перш чым паглыбіцца ў лес, звярніце ўвагу на сонца, запомніце, з якога боку яно размешчана. Калі сонца справа, то пры выхадзе ў тым жа кірунку з лесу трэба, каб яно апынулася злева;

— Пры затрымцы ў лесе звыш гадзіны ў выніку руху, здаецца, што сонца зрушылася ўправа. Таму, выходзячы з лесу па сонцы, дадаткова адхіліцеся ўлева на 15 градусаў за кожную гадзіну знаходжання ў лесе.

— Калі вы заблукалі ў лесе, першае, што неабходна — зарыентавацца на мясцовасці, вызначыць, дзе можна здабыць ваду і агонь, як абараніцца ад холаду і арганізаваць начлег.

— Калі ў вас з сабой мабільны тэлефон, набярыце тэлефон службы выратавання і паведаміце, з якога населенага пункта і якога раёна ўвайшлі ў лес, апішыце што бачыце па баках.

— Калі апынуліся ў лесе без компаса, тэлефона, а сваё месцазнаходжанне не можаце вызначыць нават прыблізна, спыніцеся і супакойцеся. Па магчымасці піце ваду і рухайцеся да мэты.

— Галоўнае для вас — выйсці да людзей, таму важнымі арыенцірамі будуць лініі электраперадачы, прасекі і сцяжынкі. Выявіўшы любы з гэтых аб'ектаў, ідзіце ўздоўж яго і вы абавязкова знойдзеце людзей.

— Калі на шляху сустрэўся ручай ці рака, прытрымлівайцеся кірунку ўніз па плыні — ён заўсёды прывядзе да людзей. Прыслухайцеся: шум трактара чуваць за 3-4 км, брэх сабакі — за 2-3 км, цягнік — за 10 км, ідзіце на гук.

— Не варта выбірацца з лесу ноччу: пачынае цямнець — лепш займіцеся падрыхтоўкай месца для начлегу. Для гэтага падыдзе яма ад вывернутага з коранем дрэва. З галінак зрабіце прытулак накшталт будана і падсцілку з падручных матэрыялаў. Дарэчы, пра барацьбу з холадам. Ліст газеты, засунутай пад вопратку, зменшыць цеплааддачу ўдвая. Такі ж эфект дае і лістота, набітая пад вопратку. Арганізуючы начлег, паклапаціцеся, каб тыя, што шукаюць вас, не прайшлі міма, — павесьце на кусты кепку, насоўку або ліст паперы, абламайце галінкі, каб прыцягнуць увагу.

*mchs.gov.by*

# Віншаванкі

**Вольгу Пісарэнка**

**віншуем з 10 годдзем!**

Оля, ты – главное в жизни моей,
Любимая дочка родная!
Быть самой счастливой и много друзей
Тебе в день рожденья желаю!

Ты радуйся солнцу, счастливою будь,
Удачи тебе и успеха!
О разных сомнениях ты позабудь –
Проблемы решаются смехом!

*Бабуля, бацькі, брацік*

**Вераніку Бахір**

**віншуем з Днём нараджэння!**

Пускай не сходит красота
С прекрасного такого лика,
Пусть расцветает доброта
В душе и сердце, Вероника!

Счастливой самой в жизни будь,
Пусть на душе спокойно будет,
Друзей любимых не забудь –
Они тебя ужасно любят!

*Бацька і маці.*

# Больш трыльёна рублёў паступіла ў бюджэт Віцебскай вобласці ад малога прадпрымальніцтва за пяць месяцаў

За пяць месяцаў 2013 года суб'екты малога прадпрымальніцтва, якіх на Віцебшчыне па стане на 1чэрвеня – 35 473, выплацілі ў абласны бюджэт падаткаў больш за трыльён рублёў, што складае 19% кансалідаванага бюджэту.

Сярод суб'ектаў гаспадарання, якія адносяцца да дадзенай катэгорыі, 26 552 індывідуальных прадпрымальнікаў і 8921 юрыдычная асоба. Пры гэтым прадпрымальнікі пералічылі ў бюджэт 127 мільярдаў рублёў, а юрыдычныя асобы — 956 мільярдаў.

90,4% усіх арганізацый малога прадпрымальніцтва складаюць мікраарганізацыі, ад якіх за пяць месяцаў 2013 года паступіла ў бюджэт 221,4 мільярда рублёў, адзначаецца ў прэс-рэлізе інспекцыі МПЗ па Віцебскай вобласці.

*Сяржук Серабро*

# Конныя вандроўкі па Глыбоччыне! Запрашаем!


воз. Горнае каля в. Белюкоўшчына (Ушацкі р-н).

**Даведкі:** сядзіба «Аграхутар» +375 29 262-59-58 МТС; +37529 364-02-66 Velk. *УНП 300020031.*
На пярэднім плане – **Якаў Серафімовіч** (х. Скрабатуны, Глыбоцкі раён), арганізатар конных вандровак.

# У Беларусі будзе праведзена комплекснае мерапрыемства «Быт», накіраванае на папярэджанне насілля ў сям'і

**З 17 па 21 чэрвеня 2013 года па ініцыятыве Міністэрства ўнутраных спраў у Беларусі запланавана правядзенне спецыяльнага комплекснага мерапрыемства «Быт». Яго асноўная мэта — папярэджанне насілля ў сям'і.**

Як паведаміла ўпраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС, гэтымі днямі супрацоўнікі міліцыі разам з прадстаўнікамі іншых дзяржаўных структур і грамадскіх арганізацый актывізуюць працу па прафілактыцы правапарушэнняў у сферы сямейна-бытавых адносін.

Ва ўзаемадзеянні з мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі будуць прынятыя неабходныя меры па выяўленні асоб, схільных да такіх правапарушэнняў, а таксама тых, хто стаў ахвярай сямейнага насілля. У абавязковым парадку вартавыя праваапарадку наведаюць па месцы жыхарства сем'і, у якіх дзеці знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы.

Таксама арганізатары мерапрыемства правядуць актыўную растлумачальную працу аб неабходнасці і магчымасці звяртання не толькі ў міліцыю, але і ў тэрытарыяльныя цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, на тэлефон агульнанацыянальнай гарачай лініі 8-801-100-8-801, у іншыя структуры, якія аказваюць дапамогу як ахвярам сямейнага насілля, так і агрэсарам. Жыхары краіны атрымаюць дадатковую інфармацыю аб магчымасцях дзяржаўных органаў і грамадскіх аб'яднанняў у комплекснай рэабілітацыі пацярпелых.

Па выніках пяці месяцаў гэтага года колькасць злачынстваў, учыненых у сферы сямейна-бытавых адносін, павялічылася амаль на 25% (са 182 да 226) у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам.

*В. Будкевіч, БелаПАН.*

# У Беларусі пачаты збор подпісаў за прынццe закона аб абароне жывёл

**На міжнародным сайце інтэрнэт-петыцый change.org арганізаваны збор подпісаў за прынццe ў Беларусі закона аб абароне жывёл ад жорсткага абыходжання.**

Аўтар петыцыі Алена Барэль звяртае ўвагу на тое, што ў Беларусі дагэтуль няма крымінальнай адказнасці за забойства жывёл. «Іх адстрэльваюць прама ў гарадах або адлоўліваюць, як у Мінску, а праз пяць дзён усыпляюць. Нават калі вывесці на галоўную плошчу краіны каня і ўспароць яму пуза, за гэта пагражае толькі невялікі штраф», — адзначае Барэль.

На гэты момант петыцыя сабрала каля 6 тысяч подпісаў, і іх колькасць працягвае расці. Аўтар петыцыі мае намер сабраць 50 тысяч подпісаў, якія будуць адпраўлены ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.

Беларускія парламент ужо тройчы спрабаваў прыняць закон «Аб абыходжанні з жывёламі», але ва ўсіх выпадках праект быў адкліканы з-за рэзкай крытыкі грамадскасці. Першая спроба была зроблена восенню 2001 года, другая — у 2007 годзе. Трэці законапраект быў адкліканы дэпутатамі ў лістападзе 2012 года. Прадстаўнікі зоаабарончых арганізацый неадназова заяўлялі, што прапанаваныя праекты закона не забяспечваюць абарону жывёл ад жорсткага абыходжання.

Нагадаем, за жорсткае абыходжанне з жывёламі ў Беларусі прадугледжана толькі адміністрацыйная адказнасць. Згодна з Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях, жорсткае абыходжанне з жывёламі, што пацягнула іх гібель або калецтва, а таксама катаванне жывёл цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 30 базавых велічынь або адміністрацыйны арышт. Ухіленне ад правядзення абавязковых мерапрыемстваў па папярэджанні хвароб жывёл або парушэнне тэрмінаў іх правядзення прадугледжвае штраф у памеры ад 2 да 10 базавых велічынь.

*Анастасія Салановіч, БелаПАН.*

■ **В.Е. Катовіч,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Штогод бабры прыносяць усё больш шкоды

## Правілы рэгулявання колькасці бабра

**За апошнія гады ў шэрагу рэгіёнаў вобласці склалася неспрыяльнае становішча з распаўсюдам і колькасцю бабра рачнога.**

Не адзінкавыя факты прычынення бабрамі шкоды сельскагаспадарчым пасевам, лясным насаджэнням, меліярацыйным і дарожным збудаванням.

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь 30.01.2008г. №126 зацверджаны «Правілы рэгулявання распаўсюду і колькасці дзікіх жывёл».

Гэтымі правіламі прадугледжана, што камісіі па папярэджанні знішчэння ці пашкоджання паляўнічымі жывёламі сельскагаспадарчых і (ці) лясных культур, якія створаны раённымі выканаўчымі камітэтамі, абавязаны вызначыць зямельныя ўчасткі ці водныя аб'екты, на якіх селішчы баброў не дапушчаюцца.

Пры наяўнасці селішчаў на гэтых участках, а таксама пры наяўнасці фактаў прычынення бабрамі шкоды, камісія з удзелам прадстаўнікоў арганізацый, якім прычынены шкода, і арандатараў паляўнічых угоддзяў праводзяць абследаванне гэтых месцаў са складаннем актаў, у якіх вызначаюцца мерапрыемствы па рэгуляванні распаўсюду і колькасці бабра, юрыдычная асоба, якая дапушчаецца да правядзення работ па разбурэнні ў гэтых месцах бабровых плацін, нор, хатак (арандатар паляўнічых угоддзяў, арганізацыі, якім прычынена шкода, іншыя арганізацыі), каляндарны час правядзення гэтых работ. Акты абследавання зацвярджаюцца мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі.

Пры разбурэнні бабровых нор і хатак у перыяд з 1 кастрычніка па 1 чэрвеня адначасова павінен праводзіцца вынятак бабра, які пражывае ў дадзеных норах і хатках. У гэты перыяд разбурэнне нор і хатак без вынятку бабра забаронена.

Важным складнікам рэгуляванні колькасці бабра з'яўляецца арганізацыя палявання на дадзены від. Пры гэтым варта мець на ўвазе, што планы вынятку бабра павінны складацца на падставе ўлікаў яго колькасці.

Такім чынам, каб гэтыя планы былі рэальнымі і адказвалі задачам рэгулявання колькасці дадзенага віду дзікіх жывёл, усім арандатарам паляўнічых угоддзяў неабходна забяспечыць якаснае правядзенне ўлікаў, у строгай адпаведнасці з парадкам і тэхналогіяй, якія ўсталяваныя Міністэрствам лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь.

Не адзінкавыя выпадкі, калі дзікія жывёлы, у тым ліку бабры, заходзяць у населеныя пункты.

У адпаведнасці з даручэннем Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 05.01.2013 гады №06/201-212 раённымі выканаўчымі камітэтамі павінны быць створаныя камісіі па арганізацыі і прынятті мер па выдаленні з тэрыторыі населеных пунктаў, садоўніцкіх таварыстваў ці дачных кааператываў дзікіх жывёл, якія могуць уяўляць пагрозу жыццю і здароўю людзей ці знаходзяцца ў бядотным становішчы.

У склад гэтых камісій рэкамендавана ўключыць прадстаўнікоў лясгасаў, раённых ветэрынарных станцый, прадпрыемстваў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, раённых аддзелаў па надзвычайных сітуацыях, раённых інспекцый прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Каардынацыю дзейнасці арганізацый па выдаленні дзікіх жывёл ажыццяўляюць мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы.

**Пры выяўленні дзікіх жывёл, якія зайшлі ў населеныя пункты, або якія знаходзяцца ў бядотным становішчы, грамадзяне могуць паведаміць у сельскі выканаўчы камітэт, раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях, лясгас, раённую інспекцыю прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**



# Чарговая праверка прыватнага прадпрыемства

**У чэрвені 2013 гады інспекцыяй дзяржаўнага пажарнага нагляду Глыбоцкага РАНС завершана планавая праверка прыватнага гандлёвага ўнітарнага прадпрыемства «Меруна» (дырэктар Мелец М.А.).**

Кіраўніцтвам не цалкам забяспечваецца пажарная бяспека, чым не выконваюцца патрабаванні арт. 17 Закона Рэспублікі Беларусь «Пра пажарную бяспеку» ад 15.06.1993, № 2403-XII.

Па выніках планавай праверкі ПГУП «Меруна» ўсталявана, што на балансе прадпрыемства маюцца 4 крамы, якія размешчаныя на тэрыторыі Глыбоцкага раёна. Па выніках планавай праверкі выяўлена значная колькасць парушэнняў тэхнічных нарматыўна-прававых актаў сістэмы супрацьпажарнага нармавання і стандартызацыі, на ўхіленне якіх не патрабуецца значнага ўкладання фінансавых сродкаў. Арганізацыйна-тэхнічныя мерапрыемствы, якія накіраваныя на забеспячэнне пажарнай бяспекі, не выконваюцца ў поўным аб'ёме. Планы эвакуацыі патрабуюць перапрацоўкі, адсутнічаюць інструкцыі да планаў эвакуацыі, на шляхах эвакуацыі знаходзяцца гаручыя матэрыялы, тым самым не забяспечана свабодная эвакуацыя людзей пры пажары.

Дадзеныя парушэнні змяншаюць узровень забеспячэння пажарнай бяспекі.

Па выніку праверкі кіраўнік прадпрыемства прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

*Дзяржаўны пажарны нагляд Глыбоцкага РАНС.*

■ А.С. Крывёнак,
*дзяржінспектар Энерганагляду.*

# Адбылося 32 выпадкі адключэння ЛЭП з-за пашкоджанняў сельскагаспадарчай тэхнікай

## Пра парушэнне Правіл аховы электрычных сетак

**У 2012 годзе ў Віцебскай вобласці адбылося 32 выпадкі аварыйных адключэнняў паветраных ліній электраперадачы напругай 10 кВ з-за пашкоджанняў элементаў ліній сельскагаспадарчай тэхнікай. Пры гэтым у бягучым 2013 годзе зафіксавана ўжо 4 выпадкі пашкоджання ліній электраперадачы сельскагаспадарчай тэхнікай.**

Так, 07.05.2013 у Талачынскім раёне трактарам, які належыць СПК «Звінячы Агра», пры ўзворванні поля плугамі была збіта апора ліній электраперадачы з абрывам правадоў. Пры гэтым без электраэнергіі засталіся шэраг населеных пунктаў, а таксама абясточваліся сельскагаспадарчыя аб'екты (фермы, зернеачышчальныя сушыльныя комплексы).

Аналагічныя выпадкі мелі месца ў Віцебскім (ААТ «Аграпраца») і 2 выпадкі ў Полацкім раёнах.

Указаныя інцыдэнты з'явіліся следствам невыканання правіл работы ў ахоўных зонах ліній электраперадачы, што магло прывесці таксама да няшчасных выпадкаў.

Так, 23.07.2010 кіруючы камбайнам у ахоўнай зоне паветранай лініі напругай 10 кВ, камбайнёр ААТ «Вялікасельскае-Агра» Пружанскага раёна здзейсніў наезд на апору паветранай лініі, што прывяло да абрыву правадоў і падзенню іх на камбайн. Не прыняўшы мер па вызваленні камбайна ад абарваных правадоў, пацярпелы пакінуў кабіну для тушэння ўзніклага ачагу ўзгарання ржы. Стоячы на зямлі паблізу падзення правадоў, патрапіў пад дзеянне крокавай напругі і быў смяротна траўміраваны электрычным токам.

29.09.2011 кіроўца аўтамабіля МАЗ-5516 АП-№6 г.Быхаў для разгрузкі зялёнай масы усталяваў аўтамабіль пад правадамі паветранай лініі напругай ЮкВ і, уключыўшы ўздым кузава, пакінуў кабіну для назірання за працэсам. Пры гэтым адбыўся дотык кузава провада ВЛ і праз вільготную зялёную масу аднафазнае кароткае замыканне на зямлю. Пацярпелы патрапіў пад дзеянне крокавай напругі і быў смяротна траўміраваны электрычным токам.

18.05.2013 у ахоўнай зоне ВЛ-10 кВ №509 ПС **Верхняе** без пісьмовай дамовы з Глыбоцкім РЭС пры правядзенні работы па добраўпарадкаванні тэрыторыі, прылеглай да могілак, грамадзянінам К. было спілавана дрэва, размешчанае на адлегласці 8 метраў ад ВЛ-10 кВ. У следстве падзення спілаванага дрэва на правады лініі электраперадачы адбыўся абрыў трох правадоў і аварыйнае адключэнне паветранай лініі.

З мэтай недапушчэння падобных выпадкаў у далейшым і ў парадку ажыццяўлення дзяржаўнага энергетычнага нагляду

**ЭНЕРГАНАГЛЯД ПРАДПІСВАЕ:**

**1.** Пры неабходнасці арганізаваць і правесці дадатковае вывучэнне патрабаванняў адпаведных ТИПА і лакальных дакументаў, прад'яўляных пры падрыхтоўцы і правядзенні сельскагаспадарчых работ.

**2.** Забяспечыць пры падрыхтоўцы і вытворчасці сельскагаспадарчых работ безумоўнае выкананне ўмоў, якія забяспечваюць захаванасць электрычных сетак – п.п.6, 11 Правілаў аховы электрычных сетак напругай звыш 1000В.

**ПАПЯРЭДЖВАЮ:**

Часткай 2 артыкула 20.3. «Парушэнне правіл аховы электрычных сетак» Асаблівай часткі Кодэкса Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні за парушэнне правіл аховы электрычных сетак Рэспублікі Беларусь, якое выклікала пашкоджанне электрычных сетак ці перапынак у забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энергіяй або прычыненне іншай шкоды, прадугледжана адказнасць у выглядзе штрафу: на фізічную асобу ў памеры ад 20 да 50 базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – ад 20 да 100 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да 500 базавых велічынь.



# «Школьны аўтобус»

**УП «Белтэхагляд» з 15 траўня распачаў акцыю «Школьны аўтобус».**

**З 15 траўня па 30 жніўня на дыягнастычных станцыях прадпрыемстваў, падведамных Міністэрству транспарта і камунікацый Беларусі, на бязвыплатнай аснове будуць правяраць тэхнічны стан аўтобусаў, якія задзейнічаныя ў перавозцы дзяцей і тых, якія эксплуатуюцца ў арганізацыях адукацыі.**

Падчас правядзення акцыі адмыслоўцы «Белтэхагляду» па ўзгадненні з рэгіянальнымі аддзеламі адукацыі правядуць заняткі з вадзіцелямі і тэхнічным персаналам, якія занятыя ў перавозках школьнікаў. Слухачам распавядуць пра патрабаванні да тэхнічнага стану, вонкавага выгляду і камплектацыі аўтобусаў.

Акрамя таго ў запланаваных занятках прымуць удзел супрацоўнікі Транспартнай інспекцыі Міністэрства транспарту і камунікацый, якія будуць растлумачваць патрабаванні заканадаўства ў вобласці забеспячэння бяспекі дарожнага руху.

У адпаведнасці з рэкамендацыямі Мінтранса ад 06.05.2013 г, якія накіраваныя на адрас аблаўтатрансаў і аблвыканкамаў, патрабуецца арганізаваць наступныя мерапрыемствы:

– да 15 05.2013 г. абагульніць пералік дыягнастычных станцый, якія задзейнічаныя ў праверцы



тэхнічнага стану аўтобусаў у вобласці, і сумесна з аблаўтатрансамі давесці інфармацыю пра праводжаную акцыю да арганізацый сістэмы адукацыі ў сваіх рэгіёнах і сродках масавай інфармацыі;

– арганізаваць збор дадзеных пра колькасць правераных аўтобусаў, іх тэхнічным стане і прыналежнасцях;

– да 01.06.2013 г. узгадніць з рэгіянальнымі аддзеламі адукацыі даты правядзення заняткаў з вадзіцелямі і тэхнічным персаналам па растлумачэнні патрабаванняў да тэхнічнага стану, вонкаваму выгляду і камплектацыі аўтобусаў і прыняць удзел у правядзенні гэтых заняткаў з прыцягненнем прадстаўнікоў Транспартнай інспекцыі;

– абагульненыя дадзеныя пра ход правядзення акцыі прадставіць ва УП «Белтэхагляд» да 10 ліпеня і 10 верасня.

Рэспубліканскае ўнітарнае сэрвіснае прадпрыемства «Белтэхагляд» было створана 28 ліпеня 2003 года. У 2009 годзе прадпрыемству перададзены функцыі па сертыфікацыі паслуг па падрыхтоўцы, перападрыхтоўцы і павышэнні кваліфікацыі вадзіцеляў механічных транспартных сродкаў.

Па стане на 31 сакавіка бягучага года ў Беларусі функцыянуе сетка, якая складаецца з 220 дыягнастычных станцый, што ўключаюць 244 дыягнастычныя лініі. Па рэгіёнах рэспублікі станцыі размеркаваны адносна раўнамерна.

**А.І Цынковіч,**
*вядучы спецыяліст транспартнай інспекцыі,*
**І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі,*
**Г.П. Адамовіч,** *вядучы спецыяліст Белдзяржтэхагляду.*

# Устаноўлены новыя крытэрыі аказання дзяржаўнай падтрымкі суб'ектам малога прадпрымальніцтва

**У Беларусі ўстаноўлены гранічныя значэнні выручкі ад рэалізацыі тавараў (выканання работ, аказання паслуг) за 2012 год для суб'ектаў малога прадпрымальніцтва, якія хочуць атрымаць дзяржаўную падтрымку ў 2013 годзе. Гэта прадугледжана пастановай № 478 Савета міністраў ад 12 чэрвеня 2013 года, паведаміла прэс-служба ўрада.**

Суб'екты малога прадпрымальніцтва могуць атрымаць дзяржаўную фінансавую падтрымку пры ўмове, што аб'ём іх выручкі ад рэалізацыі тавараў, выканання работ, аказання паслуг (без уліку падатку на дададзены кошт) за 2012 год не перавысіў устаноўленых гранічных значэнняў: для індывідуальных прадпрымальнікаў – 2,2 млрд. рублёў, мікраарганізацый — 14,6 млрд. рублёў, малых арганізацый – 53,7 млрд. рублёў.

Пастанова набывае моц пасля яе афіцыйнага апублікавання і распаўсюджвае сваё дзеянне на адносіны, якія ўзніклі з 1 студзеня 2013 года.

***Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.***

■ А.Г. Абрамчык,
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслиннага свету.*

# Для спынення парушэнняў правіл збору ягад у раёне будуць створаныя мабільныя групы

**Падыходзіць да завяршэння першы месяц лета, стаіць цёплае надвор'е, у лясах спее чарніца і настае перыяд яе актыўнага збору насельніцтвам, а таму супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі лічаць неабходным нагадаць грамадзянам пра выкананне прыродаахоўнага і лясного заканадаўства.**

Глыбоцкі раён славіцца не толькі велізарнай колькасцю вішні, але і чарніцай, брусніцай, журавінамі. Тысячы нашых грамадзян, госцяў з іншых раёнаў напаўняюць лес, калі спеюць ягады чарніцы, маліны, брусніцы, журавіны, растуць грыбы, людзі карыстаюцца дарункамі лесу ў поўным аб'ёме, пры гэтым не заўсёды законнымі спосабамі.

Штогод рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэту ўсталёўваюцца тэрміны збору ягад журавін і брусніцы. Ягады чарніцы, маліны, дурніцы можна збіраць у любы час, але толькі дазволенымі спосабамі і сродкамі, г.зн. рукамі.

**Грамадзяне, якія парушылі паказаныя тэрміны збору ягад брусніцы і журавіны або ажыццяўляльных збор ягад забароненымі метадамі і прыстасаваннямі (грабянцы, камбайны і г.д.), будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці па ч.2 арт. 15.26 Ко АП РБ, які прадугледжвае адказнасць у выглядзе папярэджання ці штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь, з пакрыццём прычыненай шкоды, за кожны кг., сабраных ягад 2,2 базавых велічыні ці 220 000 рублёў.**

Так, толькі за ліпень мінулага 2012 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі за незаконны збор ягад «грабянцамі» затрымана больш за 100 грамадзян, сума накладзеных штрафаў склала больш 40 млн. рублёў. Сёлета інспектарамі будзе ажыццяўляцца цвёрды кантроль за ўсталяванымі тэрмінамі і спосабамі збору ягад брусніцы і журавіны, вінаватыя будуць прыцягвацца да адказнасці.

Для спынення парушэнняў правіл збору ягад у раёне будуць створаныя мабільныя групы з ліку супрацоўнікаў міжрайінспекцыі, лясной аховы, міліцыі. Усе парушальнікі будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз заклікае грамадзян да выканання прыродаахоўнага заканадаўства.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі дзякуюць грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў працы і неабыякавых да захавання нашай прыроды.

Тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

